*Некаторыя палітычныя сілы дзейнічаюць па прынцыпу: галоўнае — ўдзел, а не перамога (стар.2)*

*Хто і колькі зарабляе за адну гадзіну (стар.3)*



# СВАБОДА

Год заснаваньня 1902
Выходзіць з 1990
Галоўны рэдактар Ігар Гермянчук
Заснавальнік Павел Жук
Выдавец "Газэта СВАБОДА, Ltd."
Наклад 42000
Адрас рэдакцыі:
220088, Менск, вул.Іванаўская,56
Тэл./факс 362441

14 лістапада 1995 г. №50 Кошт свабодны

## *Амаль праз год пасьля публікацыі ў СВАБОДЗЕ*

**Дзякуючы Скотланд-Ярду Лукашэнка атрымаў сьлед, які можа вывесьці на Кебіча**

Вячаслаў Францавіч заявіў СВАБОДЗЕ, што ён дзейнічаў у інтарэсах Беларусі

**Карэспандэнту СВАБОДЫ стала вядома, што ў Менску знаходзіліся двое супрацоўнікаў паліцыі Англіі. Яны займаюцца справай аб фінансавых махінацыях, у якой фігуруе дакумант з подпісам былога прэм'ера Беларусі Вячаслава Кебіча.**

Наколькі нам вядома, супрацоўнікі Скотланд-Ярда арыштавалі ў Лёндане групу махляроў (4 англельцы і адзін «югаслаў»...

...давялося шукаць неафіцыйным шляхам праз свае крыніцы ў праваахоўных органах.

Каб праверыць інфармацыю, мы патэлефанавалі В.Кебічу. Вячаслаў Францавіч вельмі прыязна ўспрыняў званок галоўнага рэдактара СВАБОДЫ і згадзіўся патлумачыць сытуацыю. Ён пацьвердзіў, што меў размову з прадстаўніком беларускага МУС. «Але для пачат...

...банкаўскую гарантыю маглі выкарыстаць нашыя ангельскія партнэры ў сваіх інтарэсах. Магчыма, яны з дапамогаю гэтай паперы сапраўды рабілі нейкія махінацыі, але мне пра гэта нічога невядома».

Паводле нашых зьвестак... праваахоўныя органы Б... атрымалі неафіцыйны... самага верху» ...

Гэты артыкул быў надрукаваны ў СВАБОДЗЕ 20 сьнежня 1994 г. І раптам, амаль праз год (!) пасьля нашай публікацыі, чытаем у "Народнай газеце" за 11 лістапада 1995 г. "Мнение прокуратуры – Кебич заложил Беларусь на один миллиард сто миллионов долларов США". Вуснамі свайго сьледчага Аляксандра Расолькі Пракуратура Рэспублікі распавядае тую ж самую гісторыю: як ангельскі Скотланд-Ярд затрымаў міжнародную групу фінансавых афэрыстаў з банкаў- скімі гарантыямі ад ураду Кебіча.

Безумоўна, нам вельмі прыемна, што СВАБОДА на год раней за астатнія СМІ здабыла і абнародавала зьвесткі пра гэтую сапраўды сэнсацыйную справу. Аднак вельмі дзіўна, чаму Пракуратура, якая заўсёды любіць спасылацца на "таямніцу сьледзтва", раптам вырашыла публічна патлумачыць акалічнасьці гэтага скандалу?

Працяг, на наш погляд, можа быць наступны: на беларусім ТБ хутка зьявіцца вядомая "тэлезорка" і пачне горача пераконваць, што ва ўсім вінаваты дэпутацкі імунітэт. Маўляў, недатыкальнасьць дэпутата Кебіча не дае магчымасьці праводзіць расьсьледаваньне гэтай справы. Напэўна будзе таксама абвінавачаны былы шэф МУС Ю.Захаранка, ведамства якога замарудзіла вокрыцьцё Кебіча. Карацей, як мы і прадказвалі ў сваёй першай публікацыі, з усяго гэтага можа атрымацца "паспяховае тэлешоў перад галоднымі выбаршчыкамі".

Тым часам СВАБОДА дарма часу не губляла. Мы правялі уласнае расьсьледаваньне, з вынікамі якога пазнаёміим нашых чытачоў у адным з бліжэйшых нумароў.

# Беларусь–Літва: чым болей «згоды», тым больш праблемаў

*У пятніцу, 10 лістапада ў Горадні знаходзілася з рабочым візітам літоўская ўрадавая дэлегацыя*

**Апроч прэм'ер-міністра А.Шляжавічуса ў ейным складзе былі таксама міністры энэргетыкі і прамысловасьці, гандлю, намесьнік міністра транспарту, а таксама дырэктар мытнага дэпартаманту В.Гержонас. Беларускую дэлегацыю ўзначальваў М.Чыгір.**

Гэта ўжо сёмая сустрэча прэм'ер-міністраў дзьвюх краінаў. Пасьля падпісаньня пратаколу сп.Чыгір сказаў, што на сустрэчы абмяркоўвалася пытаньне выкарыстаньня беларускім бокам порту ў Клайпэдзе, а таксама павелічэньне паставак ў Беларусь электрычнасьці з Ігналінскай атамнай станцыі. Чыгір зазначыў пры гэтым, што мы апынуліся ў такім становішчы, калі літоўская электраэнэргія абыходзіцца нам таньней за расейскую. Дзіўна, што наш урад толькі цяпер зьвярнуў увагу на гэты факт, бо Ігналінская АЭС заўсёды знаходзілася побач з мяжой Беларусі.

Што датычыць Літвы, то і яна вельмі зацікаўленая прадаваць нам сваю электрычнасьць. Беларускі міністар энэргетыкі сп.Герасімаў прызнаўся, што літоўцам давядзецца папаўняць запасы ўрану для АЭС, а гэта ім будзе лягчэй зрабіць пры пасярэдніцтве Беларусі. На сустрэчы закраналася пытаньне аб будучым статусе Ігналінскай АЭС, свой удзел у якой, магчыма, будзе мець наша краіна. Па-першае, цяпер станцыя ня цалкам загружаная, а па-другое – выраб уласнай электраэнэргіі Беларусі будзе абыходзіцца даражэй.

Сёлета, як паведаміў М.Чыгір, Беларусь атрымае ад літоўцаў электраэнэргіі на 25 млн. даляраў, а ў наступным годзе мы яе закупім яшчэ больш. Разьлічвацца за электрычнасьць мы будзем таварамі. Па словах А.Шляжавічуса, напрыклад, складаецца сьпіс сельскагаспадарчых машынаў на 20-30 млн. даляраў, якія атрымаюць літоўскія фэрмэры. Гэта стане некаторай палёгкай і для беларускіх прадпрыемстваў, якім сёньня цяжка прадаць свае машыны. Магчыма таксама пастаўка ў Літву і нашых трактароў.

Сёлета тавараабарот паміж дзьвюма краінамі павялічыўся ў некалькі разоў. У гандлі абвешчаны рэжым найбольшага спрыяньня. А.Шляжавічус адзначыў пры гэтым, што раней быў падпісаны міждзяржаўны пратакол аб узаемаразліках у нацыянальных валютах. Праўда, суб'екты гаспадараньня яшчэ пакуль пабойваюцца ваганьняў на валютным рынку. А М.Чыгір сказаў, што шмат хто яшчэ папросту не ведае, што ў Літве можна цяпер закупаць тавары за літы і беларускія рублі і тое ж самае ў нас.

Клайпэдзкім портам цікавіцца сёньне аб'яднаньне "Беларуськалій" і Беларускі мэталургічны завод, прадстаўнікі якіх нядаўна пабывалі там. А гарадзенскае аб'яднаньне "Азот" гэтым портам ужо актыўна карыстаецца для экспартаваньня сваіх вадкіх угнаеньняў, якія ў Клайпэду паступаюць па чыгунцы. Адразу з цыстэрнаў угнаеньні пампуюць на караблі. Аднак магчыма, што для захаваньня ўгнаеньняў літоўцы выдзеляць два партовыя нафтасховішчы. З боку "Азоту" магчымы фінансавы ўдзел у рэканструкцыі клайпэдзкага порту. Літоўская ўрадавая дэлегацыя падчас знаходжаньня ў Горадні наведала аб'яднаньне "Азот".

Вось такія пытаньні абмяркоўваліся на міжурадавай сустрэчы. Аднак падпісаны пратакол датычыў толькі прыгранічнага супрацоўніцтва і праблемаў экалогіі. А.Шляжавічус адзначыў, што абодва бакі зацікаўленыя ў добрым функцыянаваньні дзевятага эўрапейскага транспартнага калідору, які праходзіць праз нашы дзьве краіны і зьвязвае Гэльсінкі з Афінамі, а таксама і Клайпэду з Беларусяй. Дзеля гэтага трэба паскорыць на мяжы пропуск транспарту. Па словах літоўскага прэм'ера, мытнікі дзьвюх краінаў будуць рабіць догляд тавараў сумесна. М.Чыгір дадаў, што наш бок абяцае спрасьціць перасячэньне беларуска-літоўскай мяжы да 1 лютага 1996 г. Магчыма, сказаў ён, будуць павялічаныя штаты мытнікаў і пажмежнікаў. Пунктаў спрошчанага пераезду мяжы плануецца зрабіць 17.

А.Шляжавічус падкрэсьліў, што памежны пераход Каменны Лог у Смаргоньскім раёне, які напрастзьвязвае Менск з Вільняй вельмі перагружаны. Там неабходна стварыць сучасную развітую інфраструктуру. Аднак перад тым трэба дамовіцца аб дэмаркацыі мяжы ў гэтым месяцы. Ён лічыць, што там ёсьць некаторыя недакладнасьці. Беларускія ўлады ўжо прадставілі ўсе патрэбныя карты. Пасьля адпаведнай экспэртызы дзяржаўная мяжа будзе вызначана канчаткова.

**Сяргей АСТРАЎЦОЎ**

**P.S.** *Міністры сустракаюцца і прыходзяць да згоды, а мяжа тым часам робіцца ўсё больш глухой і высокай, растуць і без таго непамерныя штаты мытнікаў і пажмежнікаў, пампуецца новы бэтон у будынкі памежных пастоў... Простаму чалавеку ўсё цяжэй трапіць сёньня з Беларусі ў Літву. У гэтым сэнсе чарговая сустрэча начальства нічым не адрозьнівалася ад усіх папярэдніх: чым болей "згоды", тым больш праблемаў.*

# Аказваецца, Мечыслаў Грыб – галоўны «змоўшчык»

*Выступаючы нядаўна ў Магілёве, Лукашэнка паведаміў, што падчас ягонай паездкі ў ЗША ў Беларусі рыхтавалася змова*

Цытуем гэтае выказваньне Лукашэнкі: "Я атрымаў паляраджаньне ад сваіх сяброў,.. што я не павінен быў ехаць у Нью-Ёрк,.. таму што тут чакалася апазіцыйнае наступленьне на прэзідэнта. Аж да аб'явы імпічманту падчас маёй адсутнасьці... Людзі... спакойна рабілі сваю справу, ня даўшы апазіцыі рэалізаваць тое, што імі было задумана... Самае галоўнае павінна было пачацца з выступленьня па рэспубліканскім тэлебачаньні Мечыслава Грыба, але яму проста не дазволілі гэта зрабіць. Прыедзе прэзідэнт, тады і прыходзьце, і лепш за ўсё – разам з ім. Я хачу падзякаваць дэпутатам, якія не паехалі на апошнюю сесію, не зрабілі благую справу для сваёй рэспублікі. Мы павінны мець Вярхоўны Савет новы,.. але калі квота праходжаньня ў дэпутаты будзе 25 працэнтаў, то я з гэтым пагадзіцца не магу. Такія выбары... "вэртыкаль" забясьпечваць і правадзіць ня будзе, тым больш іх фінансаваць..."

Выказаўся прэзідэнт і ў адрас прэсы, якая гоніць на экран і старонкі газэтаў "чарнуху" замест таго, каб шукаць "парасткі адраджэньня, крупінкі таго, што жыцьцё ідзе, людзі працуюць..."

**БелаПАН**

# Шэф КДБ стаў кандыдатам навук

**Адбылося чарговае паседжаньне камісіі пры Акадэміі навук Беларусі, дзе разглядаліся пытаньні наданьня навуковых ступеняў шэрагу супрацоўнікаў сілавых міністэрстваў.**

Старшыня КДБ Уладзімер Ягораў абараніў кандыдацкую дысэртацыю па тэме "Інфармацыйнае прагрaмнае забесьпячэньне". А былы выкладчык Інстытуту нацыянальнай бясьпекі, цяпер супрацоўнік Савету бясьпекі, Анатоль Тозік стаў прафэсарам.

**СІМ**

**У калідорах МУС**

# Інфармацыйная вайна пераходзіць у вайну з інфармацыяй

**Пасьля забароны друкаваньня і распаўсюджваньня шэрагу незалежных выданьняў, "інфармацыйная вайна" у Беларусі пераходзіць у іншую фазу – вайну з інфармацыяй. У першую чаргу з крыніцамі, якія здольныя гэтую інфармацыю даваць.**

Гаворка зусім не пра нейкія дзяржаўныя сакрэты. Ну што сакрэтнага ў міліцэйскай апэратыўнай зводцы, якая штораніцу трапляе на стол кіраўнікоў Міністэрства ўнутраных справаў? Бышцам бы нічога: крадзяжы, забойствы, дарожныя здарэньні... Раней гэтую зводку атрымлівала і прэс-служба МУС. Яе супрацоўнікі штораніцы знаходзілі свой пакет інфармацыі ў дзяжурнага, і гэта дапамагала ім апэратыўна адказваць на пытаньні прэсы, прафэсійна выконваць свае функцыі. Але пасьля адстаўкі Юрыя Захаранкі, такі прафэсіяналізм стаў негатыўнай зьявай. Напрыклад, новы шэф міліцыі на ўсю краіну паведаміў, што арыштаваньня 20 міліцыянтаў-злачынцаў, а прэс-служба панаўнасьці зьвярнулася да дзяжурнага, паглядзела зводку, не знайшла аніякага пацьверджаньня гэтым зьвесткам і выклала ўсё як ёсьць прэсе. У міністэрстве пачаўся лямант. Усе кінуліся шукаць крыніцу, шпіёна! А паколькі "крыніца" добрасумленна выканала свае абавязкі і больш нічога "дывэрсійнага" не зрабіла, было знойдзена простае рашэньне – пазбавіць прэс-службу ўсялякай апэратыўнай інфармацыі. Так што зараз супрацоўнікі прэс-службы МУС пра крымінальныя навіны даведваюцца з газэтаў, якія выпісвае міністэрства.

Між іншым, знайшлася і яшчэ адна ўспышка "інфармацыйнай хваробы", што сьведчыць ужо аб сапраўднай эпідэміі. У сакратарыяце Вярхоўнага Савету нават дэпутатам немагчыма атрымаць стэнаграмму прамовы прэзідэнта Лукашэнкі падчас ягонай сустрэчы з новымі парламентарамі 3 лістапада. Як і ў ранейшых прамовах, прэзідэнта "заносіла" на паваротах. Частку ягонага выступу грамадзкасьць бачыла па тэлевізары, а вось тое, што засталося па-за кадрам, цяпер так упарта сьцеражэ вартаўнік Анціпенка – кіраўнік сакратарыяту ВС. На вайне, як на вайне. Тут патрэбен ня толькі рашучы наступ, але і глухая абарона.

**Алег ГРУЗЬДЗІЛОВІЧ**

# Сазонаў на міністра?

**У сродках масавай інфармацыі апошнім часам абмяркоўваюцца магчымыя прэтэндэнты на пасаду міністра ўнутраных справаў замест адпраўленага ў адстаўку Юрыя Захаранкі.**

Часьцей за ўсё называюць прозьвішчы Агальца, Цесаўца, не выключаюць з гэтага сьпісу і Шэймана, якога прэзідэнт прызначыў выконваць абавязкі міністра. Тым часам у калідорах МУС у якасьці найбольш верагоднага кандыдата называюць Міхаіла Сазонава – цяперашняга першага намесьніка кіраўніка адміністрацыі прэзідэнта. Некаторыя дасьведчаныя людзі нават сьцьвярджаюць, нібыта ўжо падрыхтаваны ўказ прэзідэнта аб ягоным прызначэньні на пасаду міністра унутраных справаў. А пакуль што Міхаіл Сазонаў умацоўвае сваё здароўе ў Нямеччыне.

**С.М.**

TABULA RASA

# Перад карыдай

Сяргей ДУБАВЕЦ



**У народзе кажуць: супраць лома няма прыёма, акрамя другога лома. Гэта значыць, каб вызваліць Беларусь ад аўтарытарнага рэжыму, які проціпаставіў сябе Канстытуцыі, 29 лістапада нам трэба выбраць штосьці такое самае, аўтарытарнае па духу і антызаконнае па сутнасьці.**

Фігуральна кажучы, нам трэба абраць у выглядзе Вярхоўнага Савету другога Лукашэнку. А паколькі двух Лукашэнкаў быць ня можа, яны зараз жа сыйдуцца ў сьмяротным двубоі, скіраваўшы ўсе свае сілы не на мучэньне ўласнага народу, а адзін супраць аднаго.

Вось чаму я думаю, што калі гэтыя выбары-давыбары адбудуцца і зьявіцца новы парламант, то будзе тым лепей, чым меней туды трапіць дэмакратаў. Па-першае, іх усё адно будзе занадта мала, каб штосьці вырашаць, па-другое, у новага ВС будзе занадта вузкая і канкрэтная задача – вызваліць краіну ад аўтарытарнага рэжыму. Найбольш моцную і арганізаваную апазіцыю цяперашняму прэзідэнту складаюць сёньня не БНФ і Грамада, а аграрыі, якія, мякка кажучы, недалюбліваюць свайго брата-выскачку, і камуністы, першы пункт праграмы якіх сёньня – ліквідацыя пасады прэзідэнта ў Беларусі. Менавіта гэтыя дзьве партыі – аграрная і камуністычная – і павінны скласьці маналітны кулак для выкананьня "ламавой" гістарычнай місіі дзеля вяртаньня краіны на цывілізаваны шлях разьвіцьця. 10-20 дэмакратаў у новым ВС могуць толькі сапсаваць усю справу, бо паслужаць разбурэньню гэтага маналіту, стануць падставай зноў ахрысьціць гэты камуністычны парламант бэнээфаўскім, а самае горшае – падштурхнуць камуністаў і аграрыяў да супрацоўніцтва з аўтарытарным рэжымам.

На маю думку, дэмакратам трэба было б усе сілы кінуць на "грунт" – на мясцовыя выбары і планаваць сваю дзейнасьць на пасьлявыбарную сітуацыю, а не разбураць стройныя рады камуністычна-аграрнага ВС, не мяшацца ў спрэчкі пра 50 ці 25%, якія пры ўдзеле дэмакратаў непазьбежна прывядуць да таго, што новага ВС папросту ня будзе.

У краіне цяпер актыўна ідзе працэс фармаваньня новай палітычнай эліты, і пакуль ня кожная дэмакратычная арганізацыя знаходзіць у ім сваё месца. Найперш гэта тычыцца БНФ, які пражывае свой ранейшы палітычны капітал, але новага не ствараe, бо ня мае здольнасьці і волі да ўнутраных пераўтварэньняў. Калі гэтак будзе і далей, выбары 29 лістапада могуць канчаткова ссунуць Фронт на ўзбочыну палітычнага жыцьця. Праўда, калі такое падзеньне і адбудзецца, яно ўжо ня зможа рашуча паўплываць на справу дэмакратыі ў Беларусі. Гэта будзе драма толькі для самога БНФ. Бо дэмакратычны патэнцыял краіны ўжо сёньня выглядае шырэй. Новыя людзі і палітычныя сілы нараджаюцца цяпер вельмі хутка. І неўзабаве, калі пасьля карыды "Лукашэнка–ВС" антыканстытуцыйны рэжым пакіне палітычную арэну, менавіта гэтыя людзі змогуць павесьці краіну па нармальным эвалюцыйным шляху.

Яшчэ адзін варыянт разьвіцьця падзей – калі выбары ўвогуле не адбудуцца. Тады, на маю думку, у Лукашэнкі проста ня хопіць умельства і сілы стварыць у краіне сістэму прамога прэзідэнцкага кіраваньня, пра якую ён не аднойчы казаў. Ягоная ўлада, пазбаўленая сур'ёзнага прэсінгу з боку якога-небудзь ворага, адразу рассыплецца пад напорам эканамічнага крызісу, унутры- і зьнешнепалітычных праблемаў.

У кожным разе людзі Беларусі зачакаліся алтымістычнае разьвязкі ўсіх гэтых уладных пэртурбацыяў. Чакаць, мяркую, засталося нядоўга.

# Не даганю, то хоць сагрэюся?

*Здаецца, некаторыя кандыдаты ў дэпутаты карыстаюцца алімпійскім прынцыпам: галоўнае — ўдзел, а не перамога*

У той час як адны палітычныя сілы сур'ёзна прааналізавалі вынік першага раўнду выбараў і адпаведна скаардынавалі ўласныя прэтэнзіі, іншыя па-ранейшаму марaць закідаць будучы парламант шапкамі са сваіх сьветлых галоваў. 426 цяперашніх кандыдатаў у дэпутаты (49 працэнтаў ад агульнай колькасьці кандыдатаў), ня выйграўшы на травеньскіх выбарах, вылучыліся у другі раз.

Напрыклад, старэйшая палітычная партыя на Беларусі – Аб'яднаная дэмакратычная (АДП), у шэрагах якой такія вядомыя асобы, як Станіслаў Багданкевіч, Генадзь Карпенка, Аляксандар Дабравольскі – вылучыла 25 кандыдатаў, маючы сваіх прадстаўнікоў у кожнай вобласьці краіны. А вось Партыя здаровага сэнсу (вы чулі пра такую?), відавочна, не зусім адпавядае сваёй назве, бо ад яе зарэгістраваліся ажно 20 чалавек (16 з іх – у сталіцы). Ня менш прэтэнзіяў і ў жырыноўцаў (ЛДП), з якіх ніхто ў траўні ня выйшаў нават у другі тур, аднак яны зноў вылучылі 23-х кандыдатаў. Карацей, "не даганю – то хоць сагрэюся".

Свайго роду ўнікумам зьяўляецца Гарадзенская вобласьць, дзе ўсе 76 зарэгістраваных прэтэндэнтаў прадстаўляюць палітычныя партыі – беспартыйных у перадвыбарчай гонцы ня ўдзельнічаюць. Захад ёсьць захад, але не зразумела, навошта на 14 наяўных акругаў прэтэндуюць ажно 27 кандыдатаў ад трох асноўных дэмблокаў.

Зрэшты, у тым, што колькасьць дэмакратычных прэтэндэнтаў відавочна перавышае колькасьць вакантных дэпутацкіх месцаў, ёсьць, магчыма, пэўная логіка – бо часам дэмакраты розна́й накіраванасьці і іміджу могуць адцягваць галасы выбарцаў ад моцных левых кандыдатаў. Напрыклад, прадстаўнік выбарчага камітэту Сацыял-дэмакратычнага саюзу Мікола Кійка лічыць, што ўзгадняць акругі варта толькі для агульнавядомых палітычных лідараў. А небясьпечныя кандыдаты мусяць самі даказваць сваю вартасьць.

Тым ня менш, часам перадвыбарчая тактыка дэмакратаў выклікае моцны сумнеў. Вядома, што найбольшую масавасьць выявіў Сацыял-дэмакратычны саюз, зарэгістраваўшы 82 кандыдаты ў дэпутаты (Грамада – 32, "Згода" – 37, булахаўская Партыя ўсебеларускага адзінства і згоды – 8 кандыдатаў). Варта аднак нагадаць, што на травеньскіх выбарах толькі 5 прадстаўнікоў СДС прайшлі ў другі тур. Але і цяпер многія кандыдаты ад гэтага блоку вылучыліся ў сваіх старых акругах, складаючы канкурэнцыю прадстаўнікам БНФ ці Аб'яднанага грамадзянскага блоку. Такім чынам, у 12 менскіх акругах фронтаўцы і сацыял-дэмакраты будуць змагацца паміж сабой.

Праблема ў тым, што нярэдка іміджы абодвух дэмакратычных кандыдатаў выглядаюць надзвычай падобнымі, як бы перакрываюць адзін аднаго – што, на маю думку, зьніжае магчымасьць перамогі. Напрыклад, у Серабранскай выбарчай акрузе сутыкнуцца дарадчык старшыні Нацыянальнага банку Валерый Дашкевіч з Грамады і міністар Ценявога кабінэту БНФ, вядомы прапагандыст Балтыйска-Чарнаморскага калектару Станіслаў Гусак. Абодва спэцыялісты, інтэлектуалы, абодвум давядзецца змагацца за адзін электарат выбаршчыкаў.

У іншай акрузе яшчэ два дэмакраты-інтэлегенты – Сяргей Ляўшуноў ад Грамады і Уладзімер Несьцер ад БНФ – будуць супрацьстаяць лідару камуністаў Сяргею Калякіну, які ў траўні пераканаўча перамог у гэтай багатай на пэнсіянэраў акрузе. Відавочна, што дэмакраты маглі б выставіць у такой спэцыфічнай акрузе і больш папуліцкіх кандыдатаў.

У Дзяржынскай акрузе сталіцы сутыкнуцца два вельмі разважлівыя і памяркоўныя чалавекі – намесьнік старшыні Менскага гарсавету Анатоль Гурыновіч з Грамады і намесьнік старшыні Сойму БНФ Юры Хадыка. Адназначна, што і тут прыхільнікі дэмакратыі будуць вымушаныя выбіраць з двух паважаных, але даволі падобных па іміджы кандыдатаў.

Алесь ГАНКОВІЧ

## Рэпрэсіі супраць СПБ працягваюцца

**9 лістапада ў Магілёве адбылася канфэрэнцыя абласной арганізацыі Свабоднага прафсаюзу.**

Чакалі, што ў канфэрэнцыі прымуць удзел прадстаўнікі польскай "Салідарнасьці" і баўгарскага прафсаюзу "Падкрэпа". Як паведаміў старшыня мясцовай арганізацыі Сяргей Абадоўскі, прафсаюзныя лідары з гэтых усходнеэўрапейскіх краінаў палічылі небясьпечным ехаць у Беларусь і адмовіліся ад удзелу ў канфэрэнцыі.

І яны, відаць мелі рацыю, бо мясцовыя ўлады забаранілі правядзеньне канфэрэнцыі. Аднак, нягледзячы на забарону, прафсаюзныя актывісты сабраліся ў Доме культуры аўтазаводу, дзе існуе моцная суполка СПБ (больш за 200 чалавек). Падчас працы канфэрэнцыі туды завітаў намесьнік начальніка Кастрычніцкага РАУС Магілёва палкоўнік Віктар Зайцаў, які заявіў, што канфэрэнцыя незаконная і павінна быць спынена. Быў складзены пратакол. На наступны дзень некаторых удзельнікаў выклікалі ў міліцыю і паведамілі, што "за недазволенае правядзеньне канфэрэнцыі" ім давядзецца адказваць у судзе.

Сымон ГЛАЗШТЭЙН



# Зноў насуперак Канстытуцыі

*Прэзідэнт у чарговы раз паклапаціўся, каб Канстытуцыйны суд не сядзеў бяз працы*

У хуткім часе на разглядзе у Канстытуцыйным судзе можа зьявіцца адзін з апошніх прэзідэнцкіх указаў №434 "Аб аб'яднаньні адміністрацыйных адзінак Рэспублікі Беларусь, якія маюць агульны адміністрацыйны цэнтар". Гэтым указам Лукашэнка спрабуе аб'яднаць у адну адміністрацыйную адзінку раёны і іх невялікія цэнтры на ўзор старой партыйна-адміністрацыйнай сеткі і адкласьці выбары ў мясцовыя Саветы на гэтых тэрыторыях.

*Вось як пракамэнтавалі гэты ўказ намесьнік прэзідэнта Фонду падтрымкі дэмакратычных рэформаў імя Льва Сапегі сп. Завадзкі і дырэктар Беларускага інстытуту дзяржаўнага будаўніцтва і заканадаўства пры Вярхоўным Савеце сп.Матусевіч.*

**Андрэй Завадзкі:** Прэзідэнт зноў дэманструе непавагу да законаў і Канстытуцыі. Па-сутнасьці, гэта спроба адміністрацыйнай рэформы, якая сапраўды насьпела, але праводзіць яе трэба сумесна з парламантам, шляхам зьменаў у Канстытуцыі і законах. У гэтым выпадку парушаны арт.4 Канстытуцыі, законы аб мясцовым самакіраваньні, аб выбарах народных дэпутатаў і нават закон аб прэзідэнце. У палітычным сэнсе гэты ўказ я разглядаю як спробу пазбавіць насельніцтва права прадстаўніцтва на мясцовым узроўні. Замест таго, каб гэтыя правы пашыраць, каб усё больш справаў вырашалася на месцах, зноў спрабуюць завязаць на адзіны цэнтар, на аднаго чалавека. Між тым вопыт эўрапейскіх краінаў паказвае, што бяз моцнай мясцовай прадстаўнічай улады немагчыма па-сапраўднаму клапаціцца аб людзях. Нейкага эфэкту эканоміі ад такога аб'яднаньня я ня бачу. Скароцяць некалькі дробных чыноўнікаў і ня больш за тое. А адмена мясцовых выбараў увогуле недапушчальная. Гэта парушэньне палітычных правоў грамадзянаў.

**Антон Матусевіч:** Парушаецца шэраг законаў, парушаецца Канстытуцыя, бо замест 166 адміністрацыйных адзінак уводзіцца 83. Зусім незразумелай становіцца кампэтэнцыя дэпутатаў мясцовых саветаў, раёнаў і райцэнтраў, якія аб'ядноўваюцца ў адно цэлае. Гэтая "аб'яднаная" кампэтэнцыя ні ў якім законе не абгавораная. Па законе "Аб мясцовым самакіраваньні" падобнае ўзбуйненьне магчымае пры згодзе ўсіх бакоў, але іх, як вядома, ніхто не спытаў. Наш Інстытут ужо даваў адмоўную ацэнку праекту гэтага ўказу і зараз зноў вымушаны канстатаваць, што ён супярэчыць шэрагу законаў і Канстытуцыі. На колькі мне вядома, указ ужо абмяркоўваецца ў кіраўніцтве Вярхоўнага Савету і хутка будзе накіраваны на разгляд Канстытуцыйнага суда.

Алег ГРУЗЬДЗІЛОВІЧ

## Нашых курсантаў будуць вучыць амэрыканцы

У рамках праграмы "Вайскоўцы-вайскоўцам" Міністэрства абароны Беларусі праводзіць конкурсны адбор курсантаў, якія будуць накіраваныя на вучобу ў амэрыканскую акадэмію ў Вэст-Пойнце.

Асаблівая ўвага надаецца ступені фізічнай падрыхтаванасьці і веданьню ангельскай мовы. Плануецца, што ў 1996 годзе ў ЗША адправяцца на вучобу першыя 4 афіцэры. Потым іхная колькасьць будзе расьці. Аналагічныя групы амэрыканскіх слухачоў будуць навучацца на базе беларускай вайсковай акадэміі.

## Кастэнка паедзе ў NATO?

У адміністрацыі прэзідэнта падрыхтаваны праект указу аб прызначэньні былога міністра абароны Анатоля Кастэнкі афіцыйным прадстаўніком Беларусі ў штаб-кватэры NATO ў Брусэлі.

У сілавых ведамствах і праваахоўных структурах такі выбар выклікаў некаторае зьдзіўленьне. Экс-міністар быў звольнены са службы за няздольнасьць спыніць злачыннасьць у войску, скандаль вайсковым маёмасьцю, а таксама ўдзел ягонага блізкага сваяка-ваеннаслужачага ў камэрцыйнай дзейнасьці. Цяпер ваенная пракуратура вядзе дзясяткі крымінальных справаў, зьвязаных з крадзяжамі вайсковай маёмасьці падчас знаходжаньня А.Кастэнкі на пасадзе міністра. Па некаторых фактах экс-міністра зьбіраюцца выклікаць у пракуратуру, каб удакладніць пэўныя акалічнасьці справаў.

СІМ



## Юрфаку БДУ – 70 гадоў

**10 лістапада споўнілася 70 гадоў з дня першага выпуску студэнтаў юрыдычнага факультэту Белдзяржунівэрсітэту.**

На ўрачыстасьць з гэтай нагоды ў Палацы культуры чыгуначнікаў у Менску сабралося каля 1500 чалавек: выпускнікі папярэдніх гадоў і сёньняшнія студэнты. Была зачытаная віншавальная тэлеграма з Канстытуцыйнага суда РБ, у якой былыя студэнты факультэта, а зараз высокакваліфікаваныя юрысты сардэчна віншавалі сваіх былых выкладчыкаў і малодшых калегаў. Судзьдзі з КС спадзяюцца ўбачыць у сёньняшніх студэнтах сумленных, адданых сваёй працы прафэсіяналаў. Перад гэтым выступіў дэкан факультэту, які зьвярнуў увагу на тое, што "юрыдычная адукацыя зараз перажывае свае лепшыя гады". У адным толькі Менску юрыстаў рыхтуюць яшчэ ў 2-3 камэрцыйных ВНУ, але юрфак БДУ застаецца самым жаданым месцам вучобы. Сёньня на гэтым факультэце вучацца больш за 3500 чалавек.

Ільля АЛЯКСАНДРАЎ

## Першая сотня лідзкіх аўтобусаў

8 лістапада на лідзкім заводзе "Нёман" быў сабраны соты аўтобус. Як вядома, гэты аўтобус расейскай маркі. Але 21 прадпрыемства нашай краіны супрацоўнічае з лідзкім заводам. Яны вырабляюць 60% усіх дэталяў. У лідзкім аўтобусе беларускі рухавік, корпус, задні мост. Цяпер робяцца захады, каб і каробку перадачаў для яго вырабляць таксама ў Беларусі.

С.А.

## За парушэньні дзяцей будуць расплочвацца бацькі

Глускі райвыканкам пасьля выпадку з маньякам, ад якога пацярпелі дзьве дзяўчынкі, забараніў дзецям зьяўляцца на вуліцы без бацькоў пасьля 22 гадзінаў. У пастанове райвыканкама дзецям таксама забараняецца ужываць алкагольныя напоі, курыць і ўжываць нецэнзурныя словы. За парушэньні гэтых правілаў з бацькоў будуць спаганяцца штрафы.

Сымон ГЛАЗШТЭЙН

## Ушанавалі белых і чырвоных

**11 лістапада каля вёскі Феліксава Лідзкага раёну на брацкай магіле быў устаноўлены крыж памяці, каталіцкі і праваслаўны сьвятары адслужылі малебен.**

Тут былі пахаваныя палеглыя ў 1920 г. у гэтых мясьцінах польскія жаўнеры і салдаты Чырвонай арміі. У 50-х гадох месца захаваньня разбурылі.

С.ВАЛОШКА

## «Звязда» сьвеціць на ўсход

**Калгас "Звязда" Крычаўскага раёну наладзіў кантакты з Блізкім Ўсходам.**

Спачатку ён прадаў у Ліван 250 бычкоў і цялушак на 12 тыс. даляраў. А нядаўна ў Іран паехаў статак з 440 галоў быдла, за што калгас атрымаў амаль 20 тыс. даляраў. Калгаснае начальства вельмі шкадуе, што мусульмане не ядуць сьвініну.

Сымон ГЛАЗШТЭЙН

## Хто і колькі зарабляе за адну гадзіну

**Кожны месяц беларускае Міністэрства статыстыкі і аналізу падлічвае колькасьць адпрацаванага часу работнікамі розных галінаў і заробак за адну гадзіну. І хоць гэта т.зв. сярэднія лічбы, між тым, яны даюць пэўнае ўяўленьне пра ўзровень даходаў насельніцтва Беларусі.**

### Зьвесткі за верасень 1995 г.

| | Колькі гадзінаў у месяц адпрацаваў (у сярэднім) адзін работнік | Сярэдняя зарплата аднаго работніка за 1 гадзіну (у тыс. рублёў) |
|---|---|---|
| Банкі | 155 | 13.324 |
| Апарат органаў гаспадарчага кіраваньня | 157 | 10.839 |
| Агульная камэрцыйная дзейнасьць | 169 | 10.438 |
| Будаўніцтва | 144 | 8.838 |
| Матар'яльна-тэхнічнае забесьпячэньне і збыт | 147 | 8.661 |
| Судовыя і юрыдычныя ўстановы | 161 | 7.781 |
| Транспарт | 145 | 7.749 |
| у тым ліку: | | |
| чыгуначны | 152 | 7.272 |
| мэтро | 137 | 13.322 |
| аўтамабільны | 142 | 7.533 |
| тралейбусны | 142 | 9.565 |
| авіяцыйны | 133 | 12.191 |
| Інфармацыйна-вылічальнае абслугоўваньне | 151 | 7.687 |
| Сувязь | 151 | 7.629 |
| Апарат органаў дзяржаўнага кіраваньня | 156 | 7.434 |
| Грамадзкія аб'яднаньні і фонды | 156 | 6.928 |
| Навука і навуковае абслугоўваньне | 153 | 6.216 |
| Жыльлёва-камунальная гаспадарка | 153 | 6.073 |
| Геалогія і гідралагічная служба | 144 | 6.011 |
| Лясная гаспадарка | 162 | 5.447 |
| Нарыхтоўчыя службы | 160 | 4.991 |
| Гандаль і грамадзкае харчаваньне | 157 | 4.752 |
| Адукацыя | 144 | 4.346 |
| Фізкультура і спорт | 155 | 4.119 |
| Ахова здароўя | 167 | 4.019 |
| Культура | 153 | 3.519 |
| Мастацтва | 151 | 3.507 |
| Саўгасы | 173 | 3.403 |
| Калгасы | 175 | 2.885 |
| Сацыяльнае забесьпячэньне | 157 | 2.666 |

ЧОРНЫЯ ПЛЯМЫ

# Рота далакопаў капітана Кавальскага

*Вайскоўцы беларускіх Узброеных сілаў зьнявечылі салдацкія магілы часоў Першай сусьветнай вайны*

**Як вядома, на вайне за войскамі крочылі пахавальныя каманды, якія падбіралі забітых, капалі магілы, спраўлялі хаўтуры. У Беларусі тры спэцроты далакопаў былі ўтвораныя паводле прэзідэнцкага ўказу толькі праз 50 гадоў пасьля заканчэньня вайны.**

Патрэба такая была. Часам пішуць, што на нашай тэрыторыі пахваны ледзьве не мільён невядомых савецкіх вайскоўцаў. У гэтую лічбу цяжка паверыць, аднак праблема такая сапраўды існуе. Чаму? Улады СССР пэўна доўгі час адчувалі ганьбу за бяздарны пачатак свайго ўдзелу ў вайне з немцамі: страта велізарных тэрыторыяў ажно да Сталінграда за першы год і шматмільённыя людзкія ахвяры.

Толькі праз 20 год пасьля заканчэньня вайны нарэшце ўпершыню ўзгадалі пра вэтэранаў і толькі тады дазволілі раскопваць безназоўныя магілы, якіх былі тысячы і тысячы. Пасьля гэтага на магілах пачалі зьяўляцца стэлы з прозьвішчамі, якія ўдалося высьветліць па адкапаных дакумантах і ўзнагародах. Аднак безназоўных магілаў дагэтуль на беларускай зямлі багата.

### Звычайны вандалізм

Восень 1995 года. Набліжалiся Дзяды. А ў вёсцы Каўбаскі Гарадзенскага раёну, а таксама ў полі за Селіванаўцамі зяўралі раскапаныя брацкія магілы з салдацкімі косткамі часоў Першай сусьветнай вайны.

У траўні 1990 г. гэтую магілу за Селіванаўцамі абклалі камянямі, паставілі драўляны праваслаўны крыж. Праз год крыж зьнік. Тады мясцовы чалавек Іван Лялевіч за ўласныя грошы зрабіў ужо мэталічны крыж з выгравіраваным надпісам: вечнай памяці салдат 1915 года...

Магіла гэтая лічылася сьвятым месцам яшчэ за польскім часам, калі жыў уладальнік маёнтку пан Тукала, які паставіў тут першы праваслаўны крыж. Пазьней, ужо за саветамі, калгасным мэханізатарам не дазвалялася чапаць салдацкую магілу, якая была на палетках. Праз 80 гадоў магілу раптам разбурылі.

Салдаты беларускіх Узброеных Сілаў мабыць шукалі ў ёй штосьці каштоўнае, а нічога не знайшоўшы, нібы са злосьці, кінулі зьнявечаныя косткі незакапанымі. Ці трэба лішні раз нагадваць, што кранаць упарадкаваныя магілы ніхто ня мае права? Задача спэцроты капітана Кавальскага, салдаты якой разбурылі пахаваньне – шукаць невядомыя магілы: без крыжа, без абэліска, бяз надпісу. Вось такая пачэсная місія была ім даручаная...

Паглядзець на раскапаную магілу ў Лойкаўскі сельсавет на некалькіх машынах прыехала камісія на чале з намесьнікам старшыні Гарадзенскага райвыканкаму Ю.Белавусам. Стоячы на краі магілы (гл. здымак) члены камісіі абмеркавалі сітуацыю, ды прыйшлі да высновы, што магілы часоў Першай сусьветнай лепш не чапаць. Тым больш, што салдатам канкрэтна даручана шукаць невядомыя пахаваньні Другой сусьветнай вайны.

Карацей, адбылася непрыемная і недаравальна гучная размова над раструшчанымі салдацкімі шкілетамі. А старшыня сельсавету В.Сідар увогуле вырашыў абараніць спэцроту: "Хто, маўляў, дакажа, што тут стаяў крыж? Я, напрыклад, ня памятаю..."

Закароткая памяць у сп.Сідара. Бо яму павінна быць вядома, што яшчэ напачатку 1990г. Гарадзенскі райвыканкам вырашыў паставіць памятныя знакі на магілах жаўнераў Першай сусьветнай вайны. І ўсё было зроблена як мае быць, у тым ліку і на братняй магіле за вёскай Селіванаўцы. Адказвалі за выкананьне, між іншым, менавіта старшыні сельсаветаў.

Салдатаў спэцроты вельмі хутка ў навакольных вёсках пачалі называць "гробакапацелямі". Савецкую магілу яны кінулі раскапанай. А вось як знайшлі парэшткі двух немцаў з апошняй вайны, то зрабілі зусім інакш. Зьбілі акуратна скрынкі ды перазахавалі косткі. Былі гэта, мяркуючы па мэдальёне, – эсэсаўцы.

У чым жа прычына гэткага "дыфэрэнцаванага" падыходу? Мясцовыя жыхары тлумачаць, што пайшла аднекуль чутка, нібыта нямецкія ўлады за кожны салдацкі мэдальён плоцяць ажно па 15 тысяч марак...



### Тутэйшыя людзі ставяцца да магілаў інакш

Непадалёк адсюль, на хутары каля вёскі Зарачанкі жыве Станіслаў Гняздоўскі, які пераўжыў сталінскія лагеры. Разам з дзедавай сядзібай перайшла да яго і магіла 1915 года з праваслаўным крыжам. "270 чалавек тут пахавана",– апавядае гаспадар пра магільны надпіс. Стары драўляны крыж ён спаліў, попел закапаў у магілу, пасадзіў у памяць дзьве грушы-дзічкі. У свой час калгас паставіў яму ўльтыматум: альбо забірае зямлю пад палетак, а гэта дастаткова вялікая плошча, альбо залічаць яе сп.Гняздоўскаму ў соткі. А тады, сказалі, хоць агарод тут капай. Але ён зямлю не кранаў: "Не замінае мне. Не капаў дзед, бацька, і я ня буду".

У вядомага албанскага пісьменьніка Ісмаіла Кадары ёсьць раман "Генэрал арміі мёртвых". Апавядаецца ў ім пра тое, як, праўдападобна, італійцы (канкрэтна гэта ня сказана) вырашылі вывезьці на радзіму парэшткі ўсіх сваіх жаўнераў, якія загінулі ў Албаніі. Пошукі былі няпростымі: "Праржавелыя шыльдачкі, крыжы, шмат магілаў бяз знакаў. У большасьці ўвогуле не было магілаў. Іх звальвалі ў агульныя ямы, проста ў гразь. Часта невядома нават было, дзе гэтыя ямы знаходзяцца, забітыя былі пазначаныя толькі ў сьпісах".

Жудасная місія і тым жа часам у ёй вялікі сэнс. Стаўленьнем да нябожчыкаў можна вымераць узровень культурнасьці, духоўнасьці нацыі. Як і пахавальная каманда "Генэрала арміі мёртвых", салдаты спэцроты капітана Кавальскага таксама складалі парэшткі ў цэлафанавыя мяхі, якіх ім увесь час аднак не хапала. І ўвогуле былі яны кепска забясьпечаныя і ўладкаваныя... Аднак гэта яшчэ палова справы. У краіне, дзе чалавечае жыццё нічога не каштавала 70 гадоў, з нябожчыкамі тым больш не цырымоніліся. Вось чаму здарэньне пад Селіванаўцамі можна назваць заканамерным. І ніякімі прэзідэнцкімі ўказамі тут не дапаможаш. Добра што хоць салдацкія парэшткі перазахавалі ў рэшце рэшт на вясковых могілках і сьвятар адслужыў паніхіду.

Алена КРУПІЦА
Сяргей АСТРАЎЦОЎ

## «Гарадзецкія» каровы «мінусуюць»

Саўгас "Гарадзец", якім да нядаўняга часу кіраваў Аляксандар Лукашэнка, пачаў "мінусаваць" па малаку. З пачатку гэтага года сярэдні надой малака ад адной каровы тут зьнізіўся на 73 кг, у той час, як у іншых гаспадарках Шклоўскага раёну адпаведныя паказчыкі павялічыліся. Саўгасныя даяркі зьвязваюць гэтыя вытворчыя хібы з адсутнасьцю на месцы Аляксандра Рыгоравіча, які надзвычай станоўча ўплываў на прадуктыўнасьць дойнага статку.

## «Бацька» сказаў: паехалі...

На мосьце цераз Дняпро, які нядаўна адчыніў прэзідэнт Лукашэнка ў Магілёве, адбыліся ўжо 3 аўтааварыі. Пашкоджаныя некалькі аўтамабіляў, у аднаго з пасажыраў – пералом нагі.

Сымон ГЛАЗШТЭЙН

СВАБОДА
14 лістапада 1995 г., №50

СПОРТ

# Эўрапейскія турніры: посьпехі і расчараваньні

*З пераменным посьпехам выступілі беларускія спартсмэны ў шматлікіх матчах міжнародных турніраў, якія адбыліся напрыканцы мінулага тыдня*

**Футбалісты зборнай Беларусі завяршылі выступленьне ў адборачным турніры чэмпіянату Эўропы.**

У нядзелю нашая каманда перамагла зборную Мальты – 2:0. Абодва мячы забіў Сяргей Герасімец, які стаў лепшым нашым снайпэрам у адборачным турніры (5 мячоў). Такім чынам, атрымаўшы тры перамогі і згуляўшы два матчы ў нічыю, нашая каманда перамясьцілася на 4 месца ў пятай групе, дзе, відаць, і застанецца пасьля апошніх матчаў. Пападзе нарвэжцы, чэхі і галандцы. Алімпійская ж зборная згуляла з Мальтай у нічыю – 1:1. Сваё выступленьне алімпійцы таксама завяршылі на 4-ым месцы.

**Мужчынская зборная Беларусі па баскетболе правяла свой першы дамашні матч за ўсю гісторыю свайго існаваньня.**

З лікам 94:85 нашыя перамаглі славакаў. Лепшым іграком беларусаў стаў Валерый Дайнэка, які набраў 39 ачкоў.

**Неўдала выступаюць у паўфінальным турніры Кубку Эўропы хакеісты менскага "Цівалі".**

Нашая каманда згуляла ў нічыю з фінскім ТПС – 4:4 і саступілі аўстрыйскай "Саміне" – 2:8. Шанцаў на выхад у наступны этап – аніякіх.

**Гандбалісты менскага СКА ў першым матчы 1/8 фіналу Кубку эўрапейскіх чэмпіёнаў на сваёй пляцоўцы перамоглі дацкі клюб "Гудмэ" – 26:23.**

Але гэта ня выклікала асаблівай радасьці ў шэрагах менскіх армейцаў – хацелася больш пераканаўчай перамогі. Іх чакае матч у адказ у Даніі з лідэрам чэмпіянату гэтай краіны і фіналістам аднаго з мінулагодніх эўракубкаў. СКА, канечне, мае больш тытулаў, але ў гэтым турніры тытулы ня маюць асаблівага значэньня...

**Завяршыліся гульні першага этапу Балтыйскай лігі, у якой удзельнічаюць жаночыя баскетбольныя каманды Літвы, Латвіі, Эстоніі, Расеі, Малдовы і Беларусі.**

Менскі "Гарызонт" у гэтым сэзоне пакуль выступае горш за папярэдні. Менскія баскетбалісткі завяршылі першы этап на трэцім месцы з чатырох камандаў у сваёй падгрупе і маюць мала шанцаў працягнуць барацьбу ў фінальным квартэце.

**У першым пераходным матчы за права гуляць у мацнейшым дывізіёне чэмпіянату Беларусі па футболе пінскі "Камунальнік" перамог бабруйскі "Шыньнік" – 2:0.**

Сваю пазіцыю ў першай лізе "Шыньнік" паставіў пад пытаньне, заняўшы перадапошняе месца ў сёлетнім чэмпіянаце. ("Камунальнік" быў у другой лізе на другой пазіцыі). Для захаваньня месца ў групе мацнейшых на будучы год, "Шыньніку" трэба выйграць у матчы ў адказ з перавагаю ў больш за два мячы.

**Фінішавала жаночая гандбольная спартакіяда Беларусі: пераможцам стала каманда Менскай вобласьці (гандбалісткі мацнейшага на цяперашні час клубу краіны – менскага "Палітэхніка").**

На другой і трэцяй пазіцыях – гандбалісткі Менска і Гомельскай вобласьці. Стварыць "Палітэхніку" моцную канкурэнцыю яны не змаглі.

**Даволі нечакана завяршыўся ў Цюрыху турнір XVII катэгорыі PCA.**

Чэмпіён сьвету Гары Каспараў выступіў няўдала і застаўся ззаду за расейцам Уладзімерам Крамнікам і ўкраінцам Васілём Іванчуком. Гэта можна патлумачыць стомленасьцю – нядаўні ягоны супернік у матчы за тытул чэмпіёна сьвету індус Вішванатан Ананд зусім не зьявіўся на турнір.

**З мэдалямі вярнулася зборная Беларусі с чэмпіянату сьвету па армрэстлінгу, які праходзіў у бразільскім горадзе Кампінас, што непадалёк ад Сан-Паўла.**

Абедзьве ўзнагароды прынесла Алена Кандратава. Спачатку яна стала чэмпіёнкай у катэгорыі да 60 кг сярод "леварукіх", потым заваявала бронзавы мэдаль у той жа катэгорыі, змагаючыся правай рукой. А 20-гадовы Уладзімер Нікольскі ў вазе да 90 кг., як сярод тых, хто змагаўся левай, так і сярод тых, хто змагаўся правай, быў чацьвёртым. У агульнакамандным заліку першая – зборная Расеі, другімі сталі бразільцы, трэцімі – амэрыканцы. Зборная Беларусі, якая складалася толькі з двух чалавек, не змагла стварыць ім канкурэнцыі.

**У амэрыканскім горадзе Сан-Хасэ прайшоў першы матч паміж зборнымі ЗША і Беларусі па вольнай барацьбе.**

Нашы з цяжкасьцю, але перамаглі – 6:5. Перамогу беларусам прынесьлі Аляксандар Гузаў, Сяргей Дземчанка, Ігар Козыр і Аляксей Мядзьведзеў.

**Прэзідэнт эўрапейскай футбольнай асацыяцыі (UEFA) Ленарт Юхансан, які нядаўна наведаў Беларусь, выставіць сваю кандыдатуру на выбарах прэзідэнта сусьветнай асацыяцыі (FIFA).**

Паўнамоцтвы Ж. Авэланжа, які цяпер займае гэтую пасаду, заканчваюцца ў 1998 годзе, і Юхансан лічыцца найбольш моцным ягоным канкурэнтам на пасаду кіраўніка сусьветнага футболу.

**У Барсэлоне на знакамітым "Наў Камп" адбыўся матч паміж футбольнымі зборнымі Эўропы і Амэрыкі.**

Гульня мела дабрачынны характар – сродкі ад продажу білетаў пойдуць басьнійскім дзецям, так што вынік вялікага значэньня ня меў. А перамаглі амэрыканцы – 4:3.

**28 лістапада стане вядома, ці сядзе за краты Бэрнар Тапі, былы прэзідэнт францускага "Марсэля", які некалькі гадоў таму перамог у Лізе чэмпіёнаў.**

У гэты дзень апэляцыйны суд горада Дуэ вынясе свой прысуд. Тут Тапі абскардзіў рашэньне суда першай інстанцыі, які прыгаварыў апальнага прэзідэнта да двух гадоў турэмнага зьняволеньня (да аднаго – умоўна). Падзеньне "Марсэля" пачалося якраз пасьля прамогі ў Лізе – каманду і ейнае кіраўніцтва змучылі фінансавыя скандалы і абвінавачваньні ў куплі гульняў...

**Пераможца лёгкаатлетычнай сэрыі "Гран-пры" 1995 г., срэбны прызёр чэмпіянату сьвету-93 у кіданьні дыска расеец Віталь Шаўчэнка абвінавачваецца ва ўжываньні забароненых прэпаратаў.**

Але сам Шаўчэнка адмаўляе гэта і сьцьвярджае, што ніколі не ўжываў допінгу. Тым ня менш аналізы далі станоўчы вынік. Цяпер на працягу 28 дзён Шаўчэнка мае права абскардзіць вынікі.

Падрыхтаваў
Алесь МАЛЕЦ

## Пастаўскія балоты багатыя на гарматы

**Нядаўна адзін з жыхароў мястэчка Паставы, блукаючы па лесе, знайшоў у балоце хуткастрэльную авіяцыйную гармату.**

Зьвесткі пра гэтую знаходку дайшлі да мясцовага раённага аддзелу міліцыі. Двухствольную, гатовую да стральбы гармату выцягнулі і прывезьлі ў РАУС. Як потым высьветлілася, гэтая зброя ў свой час стаяла на самалётах, што базаваліся на аэрадроме побач з Паставамі. Войскі разам з тэхнікай вывезьлі ў Расею. Таму міліцыянты перадалі гармату камэндантцкай роце, якая ахоўвае тэрыторыю і будынкі былой вайсковай базы. Мясцовыя жыхары сьцьвярджаюць, што вакол аэрадрома такога дабра яшчэ хапае.

Сямён СУХІ

## Трагічны выпадак

**У двух дзіцячых садках Магілёва адбыліся трагічныя выпадкі.**

У адным садку з прычыны нядбайнасьці будаўнікоў, якія рамантавалі дах, пачаўся пажар. На шчасьце, тут абыйшлося без ахвяраў. А ў садку N 76 на 4-гадовую Вольгу зваліліся шафа з цацкамі, якая вісела над ейным ложкам. Хуткая дапамога прыбыла толькі праз 40 хвілінаў і выратаваць дзіця не ўдалося.

Сымон ГЛАЗШТЭЙН



Управа Беларускага Народнага Фронту "Адраджэньне" выказвае глыбокае спачуваньне сябру Сойма БНФ, старшыні Беларускага дэмакратычнага аб'яднаньня вэтэранаў, выдатнаму паэту Вольскаму Артуру Вітальевічу ў сувязі з напаткаўшым яго горам – **сьмерцю МАЦІ.**

### Аўторак 14 лістапада

**ОРТ**
5.00 Тэлераніца
8.00,11.00,14.00,17.00,23.00 Навіны
8.15, 17.20 "Трапіканка"
9.05 Калі...
9.50 Сьмехапанарама
10.20 Мультфільм
10.30, 18.35 Адгадай мэлодыю
11.10 ТРК "Мір"
14.20 "Віджыт сьпяшаецца на дапамогу"
14.45 "Прыгоды пацука Сісы", спэкт.
14.55 Мультытролія
15.10 Чароўны сьвет, або Сінэма
15.35 "Элен і хлопцы"
16.00 Эфір даверу
16.30 Сем дзён спорту
18.10 Час пік
19.00 Тэма
19.45 Добрай ночы, малышы!
20.00 Час
20.50 "Дзяўчына бяз адрасу", м/ф
22.25 Масква, Крэмль
22.45 50x50
23.50 "Твін Пікс"
**НТВ**
17.00 "Чароўныя гады"
17.30 Тэніс. Фінал ATP
18.00, 21.00, 23.00 Сёньня
18.35 Герой дня
19.00 "Калі прыйдзе заўтра", ф. 1
21.35 "Прыгоды бравага жаўнера Швэйка", с. 5
22.30 Часінка
23.20 Вэрсіі
23.35 Мэламанія. Lou Reed

### Серада 15 лістапада

**ОРТ**
5.00 Тэлераніца
7.25, 18.05 Выбары-95
8.00, 11.00, 14.00, 17.00, 23.00 Навіны
8.15, 17.20 "Трапіканка"
9.00 Тэма
9.45 У сьвеце жывёлаў
10.20 Мультфільм
10.30, 18.35 Адгадай мэлодыю
11.10 ТРК "Мір"
14.20 "Віджыт сьпяшаецца на дапамогу"
14.40 Аднойчы на Каляды
15.10 Покліч джунгляў
15.35 "Элен і хлопцы"
16.00 Калі-небудзь
16.30 Сем дзён спорту
19.00 Аўтарская праграма
19.45 Добрай ночы, малышы!
20.00 Час
20.50 Футбол. Расея – Фінляндыя.
22.40 Музычная праграма
23.10 Прэс-клуб
0.05 "Твін Пікс"
**НТВ**
17.00 "Чароўныя гады"
17.30 Тэніс. Фінал ATP
18.00, 21.00, 23.00 Сёньня
18.35 Герой дня
19.00 "Калі прыйдзе заўтра", ф. 2
21.35 "Прыгоды бравага жаўнера Швэйка", с.6
22.30 Часінка
23.20 Вэрсіі
23.35 Кавярня Абломаў

### Чацьвер 16 лістапада

**ОРТ**
5.00 Тэлераніца
7.25, 18.05 Выбары-95
8.00,11.00,14.00,17.00,23.00 Навіны
8.15, 17.20 "Трапіканка"
9.00 Аўтарская праграма
9.45 Клуб падарожнікаў
10.30 Мультфільм
10.40 Смак
11.10 ТРК "Мір"
14.20 "Віджыт сьпяшаецца на дапамогу"
14.40 Запомні, прынцэса
15.35 "Элен і хлопцы"
16.00 Коткі бываюць розныя
16.15 Рок-урок
16.30 Сем дзён спорту
18.35 Лато "Мільён"
19.00 Мы
19.45 Добрай ночы, малышы!
20.00 Час
20.50 "Выкармі крумкача", м/ф
22.45 МузАгляд
23.40 "Твін Пікс"
**НТВ**
17.00 "Чароўныя гады"
17.30 Тэніс. Фінал ATP
18.00, 21.00, 23.00 Сёньня
18.35 Герой дня
19.00 "Калі прыйдзе заўтра", ф. 3
20.25 Мультфільмы
21.35 "Прыгоды бравага жаўнера Швэйка", с. 7
22.30 Часінка
23.20 Вэрсіі
23.35 "Тэарэма", м/ф

### Пятніца 17 лістапада

**ОРТ**
5.00 Тэлераніца
7.25, 18.05 Выбары-95
8.00,11.00,14.00,17.00,23.00 Навіны
8.15, 17.20 "Трапіканка"
9.00 Мы
9.40 Ранішняя зорка
10.25 Пакуль усе дома
11.10 ТРК "Мір"
14.20 "Віджыт сьпяшаецца на дапамогу"
14.40 Новая рэальнасьць
15.10 "Варвара-краса, доўгая каса", м/ф
16.30 Сем дзён спорту
18.35 Дзікае поле
18.55 Поле цудаў
19.45 Добрай ночы, малышы!
20.00 Час
20.50 "Прыгоды каралеўскага стралка Шарпа"
22.00 Погляд
22.45 Траса
23.10 "Благі ўплыў", м/ф
**НТВ**
17.00 "Чароўныя гады"
17.30 Тэніс. Фінал ATP
18.00, 21.00, 23.00 Сёньня
18.35 Герой дня
19.00 "Старэйшая сястра", м/ф
20.40 Мультфільмы
21.35 "Прыгоды бравага жаўнера Швэйка", с. 8
22.30 Часінка 23.20 Вэрсіі
23.35 "Вяртаньне Казановы", м/ф
1.15 Эратычныя шоў сьвету

### Субота 18 лістапада

**ОРТ**
6.45, 8.10 Пад'ём!
8.00,11.00,14.00,17.00,23.00 Навіны
9.30 Не зявай!
10.00 Ранішняя пошта
10.35 Смак
10.50 "Жывапіс: вялікія імёны"
11.25 Бамонд
11.50 Мультфільм
12.00 Чалавек і закон
12.25 "Выпраўленаму верыць", м/ф
14.20 Аўтамабіль і я
14.50 У сьвеце жывёлаў
15.30 Неяк раз...
16.00 Эфір даверу
16.10 Шчасьлівы выпадак
17.20 Кінематограф
18.05 "Трэмбіта", м/ф
19.45 Добрай ночы, малышы!
20.00 Час
20.50 "Прыгоды каралеўскага стралка Шарпа"
21.40 Мультфільм
22.10 Брэйн-рынг
23.10 "Цені забытых продкаў", м/ф
**НТВ**
17.00 Тэніс. Фінал ATP
18.00, 21.00, 23.00 Сёньня
18.35 Дог-шоў
19.05 Пілот
19.45 Акно ў прыроду
20.00 Надоечы
20.45 Лялькі
21.35 "Маскі", м/ф
23.45 Трэцяе вока
1.30 Playboy

### Нядзеля 19 лістапада

**ОРТ**
7.00, 8.10 Пад'ём!
8.00, 14.00, 17.00, 23.00 Навіны
9.30 Пакуль усе дома
10.00 Ранішняя зорка
10.50 З першых рук
11.00 Служу Расеі!
11.30 Іграй, гармонік!
12.00 У горадзе N
12.25 Пад знакам "пі"
12.55 "Мой сябра конь"
13.25 Сьмехапанарама
14.20 Опэрныя гісторыі
15.10 Клуб падарожнікаў
15.55 Чалавек пры справе
16.15 Мультфэерверк
17.20 Футбольны агляд
18.05 Песьня-95
19.00 КВН-95
21.00 Нядзеля
21.55 "Прыгоды каралеўскага стралка Шарпа"
23.10 Каханьне з першага погляду
23.45 "На наступны год у Ерусаліме", д/ф
**НТВ**
17.00 "Паліцэйскі Кэтс і ягоны сабака"
17.30 Сто да аднаго
18.00 Сёньня
18.30 "Крымінальная Расея: сучасныя кронікі"
19.00 "На рагу, ля Патрыяршых", с.4
20.00 Вынікі
21.10 "Прага каханьня", м/ф
23.20 Тэніс. Фінал ATP



Падпісны індэкс 63887 Нумар падпісаны ў друк 13.11.95 (12.00) Надрукавана на паліграфічнай фабрыцы "Чырвоная зорка" (г.Менск. 1-шы Загарадны завулак,3) © СВАБОДА Спасылка на газэту СВАБОДА абавязковая Наклад 42000 (1-шы завод 29420)
ЛВ N10 Заказ